Жыві, Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

№ 114 (127) 14 чэрвеня 1991 г. Пятніца. ВЫДАЕЦЦА З КАСТРЫЧНІКА 1990 ГОДА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ.

Кошт: у розніцу — 10 кап. падпісны — 3 кап.

## Факты Аргументы Коммен-тарии Суждения

### Заложники Чернобыля

В апреле 1986 года, то есть до катастрофы на Чернобыльской АЭС, в Гомельской области было отмечено 202 случая раковых заболеваний на 100.000 человек. В 1991 же году число больных (тоже на 100.000 человек), составило 246, а количество раковых заболеваний щитовидной железы у детей выросло с двух в 1987 году до семнадцати в 1990 году. Таковы сведения Гомельского обкома компартии Белоруссии.

### Зубы уже есть куда положить

ЛЕПЕЛЬ (О. Короленко). **Наступивший год знаменателен для рабочих филиала Лепельского деревообрабатывающего комбината. Филиал наконец стал независимым — теперь это малое предприятие «Универсал».**

Со сменой вывески пришла хозяйственная самостоятельность. Кроме традиционной продукции — оконных рам, дверей, рабочих костюмов, перчаток,— с прошлого года стали производить дефицитные сегодня шкафы. Дело прибыльное. А чтобы производство стало безотходным — недавно из остатков древесины начали выпуск книжных полок.

### Кому достанется последний паспорт?

**У порогов советского МИДа и московского УВИРа длинные очереди желающих впервые побывать за рубежом. Причина! Кончились... паспорта. Все сразу: и общегражданские, и служебные, и дипломатические.**

Дело в том, что на фабрике «Гознак», печатающей в том числе и деньги, как раз денег на приобретение импортного оборудования для выпуска паспортов нет — валюту не напечатаешь. Отсутствуют средства и у «хозяина» УВИРа — Министерства внутренних дел СССР. Правда, выделил 3,5 миллиона союзный МИД, но этого хватит на производство только 5—7 миллионов загранпаспортов (и то не раньше октября), а стране нужно не менее 15 миллионов — такова прогнозируемая высота эмиграционной волны.

Но загранпаспорта нужны не только начинающим путешествовать по свету. После отмены в минувшем году вкладышей для выезда в страны Восточной Европы большое количество советских граждан хотело бы получить «полноценные» документы.

«Гознак» обещает в мае несколько снизить «ажиотажный спрос», отпечатав 800—900 тысяч новых паспортов на старом оборудовании.

### С родителями или отдельно




| | СССР | Армения | Грузия | Узбекская | Туркменская | Киргизская | Таджикская | Азербайджан | Казахская | Украина | Молдавия | РСФСР | Литва | Белоруссия | Латвия | Эстония |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| вместе с родителями | 9,6 | 47 | 33 | 32 | 31 | 25 | 23 | 17 | 13 | 6 | 4,3 | 3,0 | 2,1 | 1,4 | 1,0 | 0,8 |
| поблизости, но не вместе | 63 | 28 | 38 | 37 | 45 | 45 | 43 | 54 | 58 | 68 | 71 | 70 | 76 | 73 | 74 | 71 |
| отдельно и далеко друг от друга | 7 | 5 | 6 | 6 | 4 | 7 | 5 | 4 | 9 | 8 | 10 | 9 | 10 | 9 | 8 | 10 |

### Шарапов — уже в «Незалежнасці»

МОГИЛЕВ (Соб. инф.). **12 июня 1991 года состоялась конференция стачкомов города, которая единогласно приняла решение об изменении названия своего объединения.**

Сейчас городского стачкома больше не существует, зато появился новый — Могилевский городской рабочий комитет «Незалежнасьць», сопредседателями которого стали В. В. Шарапов и М. П. Килесса. Принят устав рабочего комитета, в котором говорится: «Комитет «Незалежнасьць» создан как общественная организация, призванная защищать политические, экономические, социальные и общественные права и свободы трудящихся».

Как отразится переименование организации на конкретных делах — покажет время.

### Не такое уж сладкое слово «свобода»

БОРИСОВ (Л. Пискун). **Вопрос об организации центра и реабилитации социальной адаптации для лиц, отбывших наказание, решается сейчас в городе.**

Цель предполагаемого центра — помочь жителям города и района, вернувшимся из «мест не столь отдаленных», получить хотя бы временное пристанище, устроиться на работу, изменить свой образ жизни.

Двадцать человек добровольно поселятся в общежитии нового микрорайона. Помогать им адаптироваться, контролировать их первые шаги «на свободе» будут начальник центра, инспектор по трудоустройству, дежурные милиционеры. Режим предполагается довольно жесткий, с общим подъемом и отбоем, строгими правилами проживания.

Несуществующий пока центр успел приобрести и сторонников, и противников. За него высказываются сотрудники милиции и сами бывшие заключенные. Против — в основном местные жители: такое соседство кажется им небезопасным.

### Язык до безработицы не доведет

ТАЛЛИНН (Инфоновости). **В первом квартале нынешнего года таллиннская биржа трудовых ресурсов получила 612 сообщений о сокращении рабочих мест.**

В поисках работы на биржу обратилось 799 человек, попавших под сокращение.

Из 612 человек, получивших уведомления о сокращении, 481 — женщины. Особенно трудно найти новую работу выпускникам таллиннского технического университета, владеющим лишь одним языком.

Размер пособия по безработице составляет сейчас 108 рублей в месяц плюс 70 рублей дополнительного пособия.

Наряду с традиционно дефицитными профессиями, наибольший спрос сейчас — на владеющих иностранными языками экономистов и секретарей. В объявлениях им предлагают годовые премии в валюте и зарплату до 1500 рублей в месяц.

### Посмертная дискриминация

(«Коммерсантъ») **СПИД недаром называют чумой XX века. Многие здоровые люди начинают испытывать средневековый мистический ужас перед болезнью, который перевешивает здравый смысл и соображения гуманности.**

Городские власти Падуи повелели учредить отдельное кладбище для умерших от СПИДа. Это погребальное гетто отделено от обычного кладбища двойными решетками. Покойников хоронят голыми, завернутыми только в пропитанные дезинфицирующим составом саваны.

### «Брестский курьер» сообщает

◆ Бартерная сделка облремстройтреста № 8, по которой он получил крупную партию чешского пива «Данибиус», закончилась печально. Санстанция наложила запрет на реализацию напитка из Братиславы. 30 тысяч бутылок пива были уничтожены.

◆ При производстве строительных работ на территории Брестской крепости солдатами обнаружен склад мин немецкого производства.

◆ Заявил о своем выходе из КПСС секретарь парторганизации Брестского завода «Газоаппарат» Виктор Губаревич.

Дежурили Ирина ДЕРГАЧ и Алесь СИВЫЙ.
«ГОРЯЧИЙ ТЕЛЕФОН» РАБОТАЕТ ЕЖЕДНЕВНО С 9 ДО 11 ЧАСОВ. ТЕЛ. 32-24-02.

## На сесіі Вярхоўнага Савета БССР

# ПРАГРАМА ПРЫНЯТА, ПРАЕКТ АДХІЛЕНЫ...

**Як вядома, з першай спробы дзяржаўная праграма па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва не прайшла і была адпраўлена на дапрацоўку. Выказаны прынцыповыя заўвагі, прапанаваны дадатковыя меры. Як зазначыў старшыня Камісіі па эканамічнай рэформе Леанід Козік, урадам у максімальнай ступені былі ўлічаны ўсе заўвагі і прапановы. Апрача гэтага, зроблена ўсё магчымае, каб адлюстраваць пазіцыі розных груп, прафсаюзаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, работнікаў аграпрама, мясцовых органаў улады.**

Напрыклад, прынята прапанова адмовіцца ад стварэння новых структур кіравання. Такіх, як антыманапольны камітэт, камітэт па падтрымцы прадпрымальніцтва, асацыяцыя незалежных экспертаў у галіне цэнаўтварэння. Іх функцыі будуць выконвацца непасрэдна дзеючымі структурамі кіравання.

Сур'ёзна перагледжаны адносіны да аграпрамысловага комплексу. Урад выдзяляе ў гэтым годзе сельскагаспадарчым прадпрыемствам 3 мільярды рублёў на кампенсацыю. У праграме запісаны шэраг ільгот для вытворцаў. Так, прадпрыемствы, якія забяспечваюць вытворчасць і пастаўку тавараў паўсядзённага ўжытку звыш узроўню мінулага года, будуць плаціць падатак на прыбытак і падатак з абароту па зніжаных стаўках на 50 працэнтаў. Увесь прырост вытворчасці нехарчовых тавараў застаецца ў распараджэнні мясцовых Саветаў. Для бартэру прадпрыемствы лёгкай прамысловасці могуць пакідаць да 7 працэнтаў з аб'ёму вытворчасці.

Але сацыяльна-эканамічная сітуацыя мяняецца так хутка, што нават кожны дзень уносіць карэктывы. Таму пытанні, пярэчанні, прапановы дэпутатаў, можна сказаць, выліліся ў другое абмеркаванне.

Незадаволенасць дапрацаваным варыянтам выказалі шэраг дэпутатаў. Так, найбольшыя пярэчанні выклікаў такі пункт праграмы, які дае Саўміну БССР права ў выніку надзвычайных мер прызначаць ці здымаць кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў, выканаўчых органаў улады, прадпрыемстваў і арганізацый рэспублікі незалежна ад іх ведамаснай падначаленасці, вызначаць меры адміністрацыйнага ўздзеяння за пралікі ў гаспадарчай дзейнасці, невыкананне дзяржаўных заказаў і дагаворных абавязацельстваў. І ўсё гэта будзе рабіцца на шырока абвешчаным шляху да рынку. У адной руцэ пернік, а ў другой кнут?.. Альбо яшчэ адзін прыклад. Даць Саўміну на перыяд надзвычайных мер асаблівыя паўнамоцтвы, без узгодненасці з мясцовымі органамі ўлады прымаць рашэнні аб будаўніцтве аб'ектаў, неабходных для агульнарэспубліканскіх патрэб.

Скажыце, а як тады быць з Законам аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы? У якое становішча зноў пастаўлены мясцовыя Саветы? Ім жа ў дадзеным выпадку даецца наступная парада: «Рэкамендаваць абласным, раённым і гарадскім (гарады абласнога падпарадкавання з колькасцю насельніцтва да 70 тысяч чалавек) Саветам ствараць адзіныя гарадскія Саветы за кошт аб'яднання гарадскіх і раённых Саветаў, якія маюць агульны адміністратыўны цэнтр, з захаваннем раёнаў як адміністратыўна-тэрытарыяльных адзінак і падначаленнем сельскіх і пасялковых Саветаў гэтых раёнаў адпаведным гарадскім Саветам».

Прыкладна так і ў тэмпе была прынята пастанова «Аб надзвычайных мерах па выкананню бюджэту Беларускай ССР на другое паўгоддзе 1991 года».

***

Якіх толькі эпітэтаў ні носяць сёння прафесіянальныя саюзы: «наша славутая школа гаспадарання», «школа камунізму»... Якой крытыцы ні падвяргаюцца з усіх бакоў! Літаральна ўсё гэта давялося пачуць у адрас данай грамадскай арганізацыі пры абмеркаванні праекта закона «Аб прафесіянальных саюзах». Пасля таго, як яго прадставіў першы намеснік старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Мікалай Рош, і пасля выступлення старшыні Камісіі па пытаннях работы Саветаў Уладзіміра Леўчыка пачалі паступаць прапановы ад дэпутатаў зняць праект закона з абмеркавання. Матывіроўкі прыкладна такія. Законапраект сыры, непадрыхтаваны, носіць амбіцыйны характар. Некаторыя артыкулы ўспрымаюцца як ісціна ў апошняй інстанцыі, прэтэндуюць на ўсю паўнату ўлады, усеагульны кантроль, неабмежаваныя правы без абавязкаў. Але разважлівыя заклікі і канструктыўныя прапановы дэпутатаў Мікалая Грынёва, Пятра Драгана, Мікалая Скарыніна, Васіля Саковіча крыху астудзілі ваяўнічы дух, і дэпутаты прыступілі да абмеркавання праекта.

У многіх выступленнях лейтматывам гучала, што прафсаюзы павінны вызваліцца ад дыктату партыі, ад рабскай пакорлівасці, актывізаваць сваю дзейнасць ва ўмовах пераходу да рынку. Іх запозненую рэакцыю на падзеі, кансерватызм, баязлівасць і няўменне выявілі красавіцкія забастоўкі ў рэспубліцы. І нездарма цяпер на прадпрыемствах паралельна ствараюцца незалежныя прафсаюзы. А з гэтым нельга не лічыцца.

Вядома, сёння, а тым больш заўтра, нікому не патрэбны прафсаюзы з учарашнім дэмакратычным цэнтралізмам, са сляпым падпарадкаваннем розным догмам.

Але, як трапна заўважыў Мікалай Бойка, прафсаюзы павінны быць моцныя і знізу. І хоць гэта грамадская арганізацыя, але яе нельга атаясамліваць з грамадскімі аб'яднаннямі сабакаводаў, клубамі ахвотнікаў да піва, кактусаводаў. Паводле прадстаўленага праекта, прафсаюзы замахваюцца ледзь не на ўсю паўнату ўлады. Бо як, скажыце, разумець такі пункт: «дзяржаўныя асобы, вінаватыя ў парушэнні правоў прафсаюзаў, нясуць дысцыплінарную адміністрацыйную, крымінальную (!) і іншую (якую?) адказнасць згодна ўстаноўленаму заканадаўству».

Дзяржавай у дзяржаве ахарактарызаваў такія прафсаюзы Аляксандр Пазюмка.

А як можна ўспрымаць такі факт, што з 30 артыкулаў прыкладна ў 16 гаворыцца аб правах, у астатніх — пра гарантыі, а пра абавязкі — як пра нешта другараднае? Ці, напрыклад, такое, што прафсаюзы валодаюць правам заканадаўчай ініцыятывы. Варта спытацца, якія прафсаюзы? Калі цяперашнія, то яны, паводле выказвання аднаго з дэпутатаў, адразу імкнуцца запоўніць палітычны вакуум на самым высокім узроўні. Калі новыя, то яны найперш павінны заваяваць давер працоўных, а не спекуляваць на ім.

Магчыма, гэтымі меркаваннямі і кіраваліся парламентарыі, калі адхілілі праект.

На вячэрнім пасяджэнні было працягнута абмеркаванне пытанняў сесіі.

Іван РУБІН.



Людмила и Витольд Констанчуки (на снимке) — пока студенты. Они заканчивают строительный факультет Брестского политехнического института. Вскоре молодая семья переедет в Кобрин, где Людмила и Витольд станут работать инженерами в стройтресте № 33. Вместе с родителями будет и шестимесячная Катенька — их радость и надежда.

В институте более двухсот студенческих семей, где растут маленькие дети, но это не мешает новоиспеченным папам и мамам успешно сдавать сессии.

Фото Эдуарда КОБЯКА (БЕЛТА).

## Вниманию народных депутатов БССР

# Вопрос департизации назрел

### Республиканский профсоюз поддерживает требования рабочих

В трудовых коллективах предприятий автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения республики продолжается работа по выполнению требований, высказанных в ходе апрельских и майских выступлений трудящихся. Со стороны администрации проводятся мероприятия по повышению заработной платы, подготавливаются предложения для включения в коллективные договора текущего года на предстоящих в июле конференциях трудовых коллективов.

В качестве одного из важнейших выдвигается требование о департизации. Мысль о том, что трудовые коллективы не должны быть ареной борьбы политических течений и идей, поддерживает сегодня преобладающая часть работающих на многих предприятиях отрасли. Например, на Минском моторном заводе делегаты конференции трудового коллектива практически единогласно высказались за прекращение деятельности первичных организаций КПБ, а также любых других политических организаций на предприятии. Завершается референдум, или опрос работающих по этому вопросу и в производственном объединении «Минский тракторный завод имени В. И. Ленина». Из 14516 человек, уже принявших в нем участие, за вывод первичных организаций КПБ проголосовали 12523, организаций ВЛКСМ — 12428, против деятельности в трудовых коллективах предприятий любых политических организаций — 12245 человек.

Таким образом, теряют под собой основание утверждения тех лидеров КПБ, которые пытаются выдать идею департизации за групповое тенденциозное мнение «экстремистов»-одиночек. Слишком печален весь наш предыдущий опыт идеологизации науки и производства, партийного диктата над ними. Именно это имел в виду Совет республиканского профсоюза работников автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения, еще в конце мая поддержавший требование о департизации предприятий и организаций и деполитизации государственных структур. Да, каждый из граждан нашей республики должен иметь полную свободу выбора и проведения в жизнь своих идеологических, политических и других взглядов. Но не на производстве.

Народным депутатам республики при рассмотрении на сессии Верховного Совета БССР вопросов, поднятых трудящимися, следует прислушаться к этим аргументам. Время понять, что искусственное сдерживание уже начавшегося в нашей и других отраслях процесса департизации может принести обществу только вред. Коллективы сегодня имеют достаточно прав для того, чтобы решать эти вопросы независимо от мнения законодателей. Так давайте наконец от конфронтации переходить к консолидации!

Александр БУХВОСТОВ, председатель Совета республиканского профсоюза работников автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения,
Николай БЕЛАНОВСКИЙ, заместитель председателя Совета.

## Личное мнение

# ГЛАС НАРОДА—ГЛАС БОЖИЙ!

**И опять главные новости приходится узнавать с чужих «голосов»... Вчера, на заре, стал крутить ручки радиоприемника. Полевые работы в Краснодарском крае, очередной официальный визит, переговоры и договоры... О том, что произошло на выборах президента России,— практически ни слова. Все как в былые годы—не волнуйтесь, товарищи, не торопитесь, сочтем нужным — проинформируем.**

Пришлось переключаться на короткие волны и «ловить» радио «Свобода». Как уж они там, черт бы их побрал, в своем тенистом Мюнхене обо всем узнают? Но вот узнают же, да и нас успевают проинформировать раньше, нежели те, кто обязан это делать по долгу службы, и за полновесную зарплату.

Впрочем, может быть, именно потому и не особенно торопятся? Отрабатывают деньги, ждут указательного перста... Вдруг да высунешься раньше времени, огорчишь влиятельного дядю со Старой площади, который-то уж совершенно точно знает рецепт изготовления информационных коктейлей. Сколько должно быть правды, сколько догадок, сколько легкого тумана...

Короче говоря, нынешняя гласность, похоже, еще долгое время будет обходиться с нами, как с тяжело больными или детьми.

Итак, я настроился на волну «Свободы». Первые утренние комментарии о выборах в России. Чего скрывать: я всецело за Ельцина! И когда диктор объявил о том, что по прогнозам и предварительным данным, полученным радиостанцией из весьма информированных источников, Борис Николаевич практически победил, хмурый июньский рассвет показался мне восхитительным.

А приемник продолжал радовать. В Москве внушительную победу одержал Гавриил Попов, а в Ленинграде—Анатолий Собчак. Это значит, что едва ли не первые, по-настоящему демократические выборы, доказали — народ сделал выбор в пользу демократии против варварства и тоталитаризма.

Что же касается такой деликатной вещи, как референдум о переименовании Ленинграда в Санкт - Петербург, то хотя результаты опроса и известны, но, честно говоря, мне кажется, что данная несколько надуманная проблема не является столь уж актуальной в эти дни. По-моему, с референдумом можно было бы и повременить...

Закончился выпуск новостей «Свободы»... И опять переключился на длинные волны. Московское радио вновь делало вид, что ничего не происходит. Произошло! Не стану задним числом комментировать свое представление о претендентах на пост президента России. С моей точки зрения, повод для анализа давало лишь решение Бакатина включиться в выборную борьбу. По-моему, несколько месяцев назад, освободив его от поста министра внутренних дел СССР, Михаил Сергеевич Горбачев провел гроссмейстерскую операцию, пытаясь сделать из проходной пешки ферзя. Разумеется, Вадим Бакатин совсем не политическая пешка, но и в ферзи ему, кажется, рановато. Хотя говорит складно, корректен, безусловно умен...

Вполне понятно, что не состоявшийся по предварительной информации, президент России Вадим Бакатин совсем скоро поменяет расплывчатый статус «советника» на что-нибудь более осязаемое в смысле власти. Но это уже повод для других размышлений. Ясно лишь, что многомудрая комбинация с отправкой Бакатина в «тень», а затем его вывод на авансцену в ореоле «либерала» и «умеренного демократа» не получился.

Кто мог голосовать за А. Макашова? Разве что те, кто проходит службу в ПУРО, или кто обучался с ним в Академии Генштаба... Вспоминаю, как браво срезал генерал-полковник одного из журналистов:

— Как вы относитесь к Ельцину?

— Я с ним вместе не служил!

Пусть после этого кто-нибудь скажет о том, что устарел незабвенный господин Грибоедов... Военная подготовка у Макашова наверняка позволяет ему дослужиться до главкома Сухопутных войск. Вполне возможно, что он еще больше приблизится к Суворову по части изготовления крылатых афоризмов, превращающих пулю-дуру в штык-молодец. Но все это не имеет ровно никакого отношения к цивилизованному посту Президента.

В. Жириновский дал работу журналистам, имеющим саркастический склад ума, да повеселил телезрителей. И на том спасибо.

Что же касается Николая Ивановича Рыжкова, то, на мой взгляд, горе ЦК КП РСФСР, не придумавшей ничего лучшего как по сути дела «рекомендовать» на высший государственный пост деятеля, который не был изгнан с треском с работы только потому, что ушел на бюллетень.

Я как-то писал уже о том, что в головке Российской Компартии собрались люди, лишенные дара предвидения. Приученные в свое время действовать по указке сверху и Полозков и тем более Антонович, показали себя абсолютно беспомощными в большой политике, где мелкий дриблинг и межкабинетные интриги создают лишь иллюзию политической деятельности, ее суррогат. Расчет на фигур позавчерашнего дня лишний раз в этом убеждает.

Впрочем, все это, похоже, уже сенсации, которым место в архиве. Если и впрямь Ельцин победил в первом туре, то продолжит мечты о собственном доме Николай Иванович, усилит требовательность к строевой подготовке личного состава Макашов, привычно отодвинется в тень Бакатин, продолжит резвиться выдающийся защитник «истинно русских людей» Владимир Вольфович Жириновский.

У России гораздо более серьезные проблемы, чем размышления о том, чем займутся кандидаты. России нужно выкарабкиваться из кризиса. Вдохнуть жизнь в ставшее погостом Нечерноземье, накормить Урал и Сибирь, помирить Кавказ и стать Отчизной для всех, кто живет на равнинах от Днепра до Чукотки. Сколько работы! Нужно сеять, варить металл, учить детей, выдавливать из себя рабов и не поддаваться призыву тех, кто под разговоры о «народе-богоносце» тянет россиян в черную яму имперского расизма.

Для этой работы нужен мудрый, смелый и твердый пастырь. Народ назвал его имя. Глас народа—глас Божий!

Павел ЯКУБОВИЧ.

## На палях рэспублікі

# Ідуць касцы, звіняць іх косы...

ХОЦЬ і не вельмі ўхваляецца ў нашай прафесіі паўтарэнне сказанага, але ж не ўтрымаюся, каб не адзначыць з радасцю зноў: на палях рэспублікі па-ранейшаму ўсё нармальна. І калі так будзе ісці далей — будзем з добрым ураджаем.

Зараз жа галоўны сялянскі клопат — на сенажацях. Па ўсёй рэспубліцы зазвінелі адвечныя мужыцкія ручныя косы, а найбольш, зразумела — механічныя. Тым больш, што беларуская сталёвая сенажацкая «армія» ў добрым стане: касілак, механічных грабляў, прэс-падборшчыкаў хапае! От каб толькі надвор'е яшчэ трохі паспрыяла, не даўшы волі вялікім і працяглым дажджам.

Бо работы шмат. Аднаго сена трэба нарыхтаваць па рэспубліцы каля 3 мільёнаў тон. А яшчэ ж сянаж, травяная мука. І справа тут, думаецца, не столькі ў лічбах, а хутчэй у тым, каб у кожнай гаспадарцы самі цвёрда ведалі, колькі трэба таго фуражу, каб зімою жывёлу саломаю не карміць.

Для захоўвання кармоў да наступнай вясны ёсць нямала добрых, адпрацаваных тэхналогій. Яны пры належным падыходзе дазваляюць кожнай гаспадарцы быць з сенам і сенажом.

Цяжкасцей і матэрыяльных дэфіцытаў на сённяшняй касьбе хапае. Але ж зараз гаварыць пра іх і «біць у званы» ўжо позна — працаваць трэба! Таму з усіх дэфіцытаў кожны гаспадарнік стараецца выкручвацца па-свойму, зыходзячы з абставін.

Словам, на касьбе — як на касьбе: трэба рана ўстаць і позна легчы. Летні ж дзень, як вядома,— год корміць. І таму хочацца пажадаць беларускім касцам добрага здароўя, плённай працы і яснага неба.

Павел СТАСЕВІЧ.

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

### Нам стала вядома

## Укладанні акупяцца

Як вядома, школы ў мікраранах любога горада з'яўляюцца цэнтрамі культурна-масавай работы, калі гэта важная справа вядзецца на належным узроўні. А каб навучальная ўстанова адпавядала сучасным патрабаванням, неабходна мець надзейнага шэфа.

Смаргонскай гарадской сярэдняй школе № 6 у гэтым сэнсе пашанцавала. Яе апякун — філіял вытворчага аб'яднання «Мінскі трактарны завод імя У. І. Леніна», дзе дырэктарам народны дэпутат гарадскога Савета Станіслаў Мікалаевіч Лабачоў. Вось і нядаўна калектыў прадпрыемства выдзеліў школе 40 тысяч рублёў для набыцця 410 мяккіх крэслаў для актавай залы. Неўзабаве пад яе купалам будуць дэманстравацца мастацкія кінастужкі для дзяцей і іх бацькоў, што жывуць у мікрараёне Прамысловым, праводзяцца вечары адпачынку.

Дэпутат С. М. Лабачоў лічыць, што ўкладзеныя ў патрэбную справу грошы спаўна акупяцца. Дарэчы, прадпрыемства аказвае шэфскую дапамогу і тутэйшаму дзіцячаму садку.

**Валянцін БАРЫСЕВІЧ.**

## Гаючы водар

Пахі раслін — найвялікшы цуд прыроды. Гэта заўважылі яшчэ старажытныя людзі. У адным выпадку яны могуць выклікаць радасць, цудоўны настрой, асалоду, вылечыць ад хваробы, у другім — быць вельмі небяспечнымі для здароўя чалавека. Людзі імкнуліся прыстасаваць гэтую якасць раслін да сваіх патрэб. У Японіі, напрыклад, вырабляюць мэблю з пахам хвоі. Падобныя работы праводзяцца ў шэрагу навукова-даследчых інстытутаў нашай краіны.

У Беларусі ў гэтым напрамку працуе Інстытут эксперыментальнай батанікі АН БССР. Вучоныя стварылі глебу, на якой можна вырошчваць расліны з лекавым пахам. У ёй ёсць усе неабходныя для гэтага кампаненты. Абсталяванне простае. Яго можна ўстанавіць у любым пакоі. Гэта дае магчымасць арганізаваць кабінеты лячэбна-прафілактычнай фітатэрапіі ў школах, садках, яслях. А таксама азеляніць іх.

І яшчэ адна станоўчая якасць штучнай глебы, створанай вучонымі, — на ёй можна вырошчваць экалагічна чыстыя прадукты харчавання.

**Мікола ЖУКОЎСКІ.**

### Крык душы

## А ў адказ: «На ўсіх не набярэшся»

Мой татка — інвалід Айчыннай вайны І групы, але з яго бралі прыклад, калі ён на пратэзе касіў, працаваў паляводам, даглядаў цялят у калгасе, а зараз — саўгасе «Іскра». У апошнія гады на назе адкрылася рана, ён вельмі пакутаваў, але ўсё роўна працаваў малаказборшчыкам. Не даваў спуску нячыстым на руку людзям, малако здаваў тлустае. Яго паважалі кіраўнікі, часта заходзілі, прасілі яшчэ папрацаваць і заатэхнік, і старшыня, і брыгадзір. Нас у таты шасцёра, і мы яго шкадавалі. Казалі: кінь ты ўжо па калгасных палетках на адной назе тупаць. Ён толькі ўсміхаўся: які ж чалавек без работы!

Але вось здарылася гора — інсульт. Бацька прыкаваны да ложка. І быццам памёр ён для тых жа кіраўнікоў. Як быў патрэбен калгасу — дзверы ў нашай хаце не зачыняліся, цяпер ніхто парога не пераступіць.

Ніколі наш тата нічога не прасіў і нас так вучыў. Але жыццё прымусіла. Мыць яму пасцельную бялізну трэба кожны дзень, маці ўжо без рук ад гэтага мыцця. Звярнуліся ў Артухоўскі сельсавет з просьбай набыць маленькую пральную машыну. Нам адказалі, што чарга агульная што для інвалідаў вайны, што для здаровых. У райвыканкаме сказалі, што такіх інвалідаў шмат, на ўсіх не набярэшся.

Вось і думаю: мо, усе мы ўжо без душы? Чаму ў горадзе адны адносіны да інвалідаў, а ў вёсцы — іншыя? Мо, яны, як мой тата, людзі другога сорту? Даруйце за такія думкі і не думайце, што мы, дзеці, нешта хочам сабе. Нам нічагуткі не трэба, абы толькі татка наш жыў...

**Любоў КАЛЯДЗЕНКА.**
Вёска Дварэц
Рэчыцкага раёна.

### Твае сыны, Беларусь

# А скрыпка смяецца і плача...

## У яе мелодыі быццам адбіўся ўвесь лёс ветэрана

**Калі прыходзіць вясна і ўсе мы святкуем Дзень Перамогі, я ўспамінаю менавіта яго, Аляксандра Іосіфавіча Дыдышку з вёскі Ліпск, па-вясковаму — дзядзьку Цімашыка.**

Ён — сама сціпласць і непрыкметнасць. Хоць і невялічкі ростам, але сілы і моцы ў ім столькі, што хапіла б на многіх здаравякоў. Як і родная старонка, ён столькі перажыўперагараваў, што дзіву даешся, як жа ён падняўся на ногі, вырасціў з жонкай Любай сямёра дзяцей, і як бы ні было цяжка, ён ніколі не быў пыхлівым, не расказваў пра сваё жыццё, поўнае драматызму і нават неверагоднасці.

Да вайны жыў Аляксандр удваіх з сястрой Марыяй на хутары. Бацькі памерлі рана, і на плечы хлопца ляглі ўсе сялянскія клопаты пра зямлю, гаспадарку. Круціўся як мог. Ад плуга да бараны, ад бараны да касы, сякеры, пілы. І так дзень пры дні. А выпадала вольная часіна — ладзіў скрыпку, браў гармонік — і слава адмысловага музыканта трывала ўстанавілася за Аляксандрам. Без яго, лічы, ні адна вечарынка не абыходзілася.

Недзе вясною 1942 года, калі людскія сілы, нібы ручаіны ў вялікую раку, сцякаліся ў атрад Кірылы Арлоўскага «За Радзіму» брыгады № 20 імя Грызадубавай, спаткаўся з партызанамі і Аляксандр Дыдышка. Зайшоў да суседскіх хлопцаў, а яны — там. Спачатку насцярожыліся: хто такі? Даведаліся, што сірата,—прапанавалі ў атрад.

— Я не адмаўляюся, — успамінае ветэран. — Кажу: так і так, ёсць у мяне каровы. Накашу сена (сястра не здужае) і тады я — вольны казак.

Так і было. На зыходзе лета Аляксандр падаўся ў атрад. Камандзір Лабанаў сустрэў хлопца прыхільна: «Расточку ты малога, ніхто і не падумае, што ты партызан. Будзеш пакуль дастаўляць хлеб у атрад. Заадно прыслухоўвайся, што людзі кажуць пра фашыстаў, які ў іх настрой».

Напярэдадні чатырнаццатага студзеня 1944 года камандзір узвода Паўлючэнка накіраваў Аляксандра ў Мінск праверыць чуткі аб хуткай аблаве карнікаў.

Заначаваў Дыдышка на хутары Красным. На досвітку заскочыў да замужняй сястры Ганны Бурбіцкай. Тут і засцігла яго аблава.

Білі паліцаі па-зверску. Маўляў, будзеш ведаць, як весяліць партызанскім гармонікам. Кінулі Аляксандра, як трафей, у павозку і паехалі рабаваць уцалелыя залужскія хаты.

Калі вярнуліся ў Ліпск, зноў учынілі допыт, зноў білі — і ботамі, і прыкладамі. Потым сагналі ўсіх на сялянскі падворак, выстраілі ў шарэнгу і павялі па сцежцы. Паміж хатай і хлявом паліцай сп'яну камандуе: «Стой! Нале-е-ва!» Потым: «Тры шага ўпярод!» і «Лажысь!».

— Упаў я ў снег, — кажа Аляксандр Іосіфавіч, — як у нагрэты на печы пух. Галава гудзе, гарачка ў целе. Па левую руку ад мяне Алесь Супрыновіч, справа — Міша Салодкі, Алесь Пастарнакевіч, Сцяпан Супрыновіч, Фёдар Чаранкевіч, Мікалай Герасімовіч... Шэпча мне Салодкі: «Давай уцякаць». Тут клацнулі затворы і грымнулі першыя тры стрэлы. Я страціў прытомнасць. Ачнуўся і не ведаю, забіты я ці не. Здаецца, галосяць жанкі. Спрабую абаперціся на рукі і падняцца. Раз, другі. Не выходзіць. Чую, нехта спалохана праз слёзы раіць: «Вады яму! Вады!» Нарэшце ўсё-такі ўстаў, падняўся. Глянуў — і як стала мяне трэсці, суняцца не магу. Ляжаць хлопцы з раструшчанымі галовамі. Кроў. Многія босыя. Там, дзе я ляжаў, на ўзроўні шыі дзірка ў снезе і таксама кроў. Толькі не ад кулі — ад пабояў. Гэта, відаць, і выручыла. Пашанцавала і яшчэ: паліцаі не сталі здзіраць з мяне абутак. Быў я ў лапцях. Боты яны адабралі яшчэ раніцой, пры арышце. Вось так і ўцалеў. Зноў партызаніў. Потым фронт. Было — засыпала зямлёй у акопе... Але ж дайшоў да Германіі. Пасля вайны працаваў у калгасе, потым — вартаўніком у сельскім спажывецкім таварыстве.



— Толя, — Дыдышка паклікаў сына, — вазьмі-тка гармонік, той, што падарыў мне саўгас на Дзень Перамогі.

Пакуль сын даставаў двухрадку, сам Аляксандр Іосіфавіч узяў скрыпку, падмазаў смык, падстроіў струны.

Селі бацька і сын адзін насупраць другога — і ўзляцела, узвілася вядомая ўсяму свету мелодыя «Кацюшы». Залівайся гармонік, плакала і смяялася скрыпка, выказваючы радасць і боль ветэрана.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**
**Фота аўтара.**

Вёска Ліпск,
Ляхавіцкі раён.

### Трывожная тэма

# Як Міколцы «бомбу» падклалі

**Дзесяць гадоў таму паблізу вёсак Міколка і Кругліца Уздзенскага раёна з'явілася падсобная сельская гаспадарка сталічнага вытворчага аб'яднання «Інтэграл». Створана яна была, як няцяжка здагадацца, для больш поўнага забеспячэння рабочых прадпрыемства прадуктамі харчавання. На тэрыторыі прыкладна паўтысячы гектараў штогод размяшчаюцца плантацыі агародніны, на фермах «расце» мяса... Жыхары названых вышэй вёсак, як і мясцовыя ўлады, не маюць нічога супраць такога суседства. Яны заўсёды віталі працавітых людзей.**

Аднак час ад часу найбольш цікаўныя з вяскоўцаў сталі звяртаць увагу на аб'екты, што размешчаны на тэрыторыі падсобнай гаспадаркі, але мала чым падобныя на сельскагаспадарчыя пабудовы: невялікія памяшканні, абнесеныя высачэзным плотам ды калючым дротам. На пытанні да работнікаў гаспадаркі чулі няпэўны адказ: «Склады нейкія...» А потым да ваколіц Міколкі і Кругліцы стаў даходзіць непрыемны пах...

Гэтай сітуацыяй зацікавілася санітарна - эпідэміялагічная служба раёна. Выявілася, што каля пяці гадоў назад паблізу Міколкі вытворчае аб'яднанне «Інтэграл» без узгаднення з прыродаахоўнай службай раёна, без акта аб адводзе зямельнага ўчастка пад будаўніцтва ўзвяло «часовы» склад газавых балонаў. Якое ж дачыненне мае гэты склад да падсобнай гаспадаркі? Непасрэдна да апрацоўкі палеткаў ці вырошчвання жывёлы ён патрэбен, прабачце, як бегемоту электрачайнік.

Многае стала зразумелым, калі даведаліся, што ж на самай справе захоўваецца на тым складзе: монасілан з аргонам, фасфін з аргонам, бор трыхлорысты, фасфін з вадародам, аміяк, прапан-бутан, кіслярод газападобны, ацэтон, гелій, аргон, вуглекіслата, фрэон, азот — усё, што вельмі небяспечна, што не хочацца захоўваць у сябе пад бокам, на тэрыторыі прадпрыемства. Але ж і тут жывуць паблізу людзі, знаходзіцца піянерскі лагер «Зарніца»... Барані Бог, каб не здарылася надзвычайнае здарэнне.

Падобнае было ў красавіку гэтага года на тэрыторыі раёна. Нядзельным надвячоркам на Слуцкай шашы трапіў у аўтакатастрофу аўтамабіль, які перавозіў монанатрыевую соль, бэтаасіэтылеэтылендыямін (нават цяжка выгаварыць) і іншыя шкодныя рэчывы. Вадзіцель загінуў. На месца катастрофы разам з пажарнікамі прыбылі работнікі санстанцыі, але ніхто не ведаў, чым і як можна тушыць такую гаручую сумесь.

Не ведалі яны пэўны час, што і на інтэгралаўскім складзе, на адлегласці не больш сотні метраў ад склада ГЗМ і каля кіламетра ад піянерлагера захоўваліся тэхналагічныя газы, якія ўключаюць рэчывы першага і другога класаў небяспечнасці. Падобных складоў, як сцвярджаюць спецыялісты, на тэрыторыі рэспублікі больш няма. Значыць, не адпрацаваны як след і меры супрацьаварыйнай бяспекі.

Больш таго, не знайшоўшы на тэрыторыі рэспублікі ці за яе межамі могільніка для таксічных адходаў, адміністрацыя прадпрыемства прымае рашэнне «сплавіць» бетонныя кубы з адходамі берылiевай керамікі і мыш'яку на тэрыторыю ўсё той жа падсобнай гаспадаркі. Толькі дзякуючы намаганням грамадскасці, умяшанню санітарнай службы «шэфы» са сталіцы вымушаны былі вывезці таксічныя адходы за межы раёна.

Пасля таго, як пра падпольны склад стала вядома санстанцыі раёна, яна стала патрабаваць ад адміністрацыі «Інтэграла» спыніць эксплуатацыю часовага склада. Але там ніяк не жадаюць пакідаць абжытыя куткі, спасылаючыся на тое, што без падобнага склада спыняць сваю работу многія прадпрыемствы аб'яднання. Завязалася шматмесячная перапіска паміж галоўным санітарным урачом раёна А. Андросікам, намеснікам генеральнага дырэктара ВА «Інтэграл» В. Бура і намеснікам галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача БССР У. Жукоўскім.

Спачатку Жукоўскі дазволіў эксплуатаваць склад да 1 ліпеня 1990 года пры ўмове, што да гэтага часу будзе пабудаваны ва ўстаноўленым парадку пастаянны склад з захаваннем усіх мер перасцярогі, з атрыманнем адпаведных дазволаў і г. д. Аднак кіраўніцтва «Інтэграла» праігнаравала прапанову санітарнай службы. Спачатку В. Бура паведамляў А. Андросіку (пісьмо ад 21.12.1988 г.), што склад пабудаваны «...на захад ад в. Міколка і в. Кругліца на адлегласці прыкладна 1000 м», хоць санітарныя службы раёна і рэспублікі ўстанавілі, што гэтая адлегласць складае адпаведна не болей 500 і 400 метраў.

Намеснік галоўнага інжынера «Інтэграла» С. Вернікоўскі ў пісьме А. Андросіку ад 21.11.1988 г. просіць яго ўзгадніць пляцоўку для размяшчэння на тэрыторыі падсобнай гаспадаркі дзвюх установак «Віхор» для тэрмічнага абясшкоджвання гаручых вадкасцей, спасылаючыся на тое, што Мінская аблсанэпідстанцыя не супраць гэтага. Аднак галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Мінскай вобласці Б. Каласоўскі выкрывае, па сутнасці, яго падман, паведамляючы А. Андросіку (пісьмо ад 12.12.1988 г.), што Мінская абласная санэпідстанцыя катэгарычна супраць размяшчэння ўстановак «Віхор», паколькі няма магчымасці стварыць тут санітарна-ахоўную зону ў 1500 м.

Цяжка змагацца раённаму кіраўніцтву з буйным прамысловым монстрам, бо сталічнае начальства, на словах разумеючы праблемы ўздзенцаў, ведаючы, якая «бомба» ім падкладзена, робяць усё для таго, каб ядавітыя рэчывы засталіся на тым жа месцы. Не дапамаглі і звароты раёна да Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, прыродаахоўнай пракуратуры БССР.

...Прыйшоў ліпень 1990 года, закончыўся падоўжаны тэрмін эксплуатацыі часовага склада. Да будаўніцтва новага ніхто не прыступаў. Адміністрацыя «Інтэграла» ў асобе таго ж В. Бура паведаміла галоўнаму санітарнаму ўрачу раёна, што тэрмін будаўніцтва сарваны па віне падрадчыкаў, просіць падоўжыць дазвол на эксплуатацыю старога склада да завяршэння будаўніцтва новага ў 1991 годзе. Такога дазволу ні ва Уздзе, ні ў Мінску ніхто не даваў. Аднак склад існуе. Ізноў б'юць уздзенцы ва ўсе званы. Тым больш, даведаўшыся, што на адлегласці 400 метраў ад склада плануецца пачаць будаўніцтва яшчэ аднаго піянерлагера...

Зусім незразумелым, калі не больш таго, было рашэнне намесніка галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача БССР ад 29 красавіка 1991 года дазволіць эксплуатацыю часовага склада газавых балонаў у в. Міколка «да заканчэння будаўніцтва базавага склада (1993 год)». Гэта ўжо верх уседазволенасці і беспакаранасці.

**Аляксандр АНДРОСІК,**
**галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Уздзенскага раёна;**
**Віктар САБАЛЕЎСКІ,**
**супрацоўнік газеты «Чырвоная зорка».**

## ЛЕКАРСТВО ДЛЯ ВСЕХ





**Поистине чудодейственный материал, рожденный содружеством ученых Академии наук Украины и производственников Гомельщины, начали выпускать на светлогорском ПО «Химволокно». Его прозаичное название — сорбент тканей углеродный марки АУТ-м — понятно только специалистам. Но, пожалуй, не найдется человека, который однажды не захотел бы воспользоваться препаратом из АУТа. Качества, которыми обладает сорбент, позволяют применять его в виде таблеток, гранул, повязок, суспензий при лечении самых разнообразных заболеваний и патологических состояний человека. Ожоги и трофические язвы, вирусный гепатит и цирроз печени, кожные и аллергические заболевания, психоневрологические расстройства — далеко не полный перечень недугов, избавиться от которых помогает АУТ. Но главное — выявлена его высокая активность при лечении постлучевых синдромов, ускорении выведения из организма радионуклидов.**

**НА СНИМКАХ:**
*** Так выглядят новые целебные препараты.**
*** Аппаратчик-оператор дистанционного пульта управления технологическим процессом Мария ЛОБАНЬ — одна из тех, кто участвует в производстве новых лекарственных препаратов.**
**Фото С.ХОЛОДИЛИНА (БЕЛТА).**

### Полемика

# Я РАБОМ БЫТЬ НЕ ХОЧУ...

**По следам выступления майора госбезопасности Валерия Костко «Не демократизировав общество, мы не построим правовое государство» (8 марта с. г.) и ответа его коллеги Петра Снопка «Каким-то влиятельным силам выгодно выбить КГБ из колеи» (7 мая).**

## Хорошая мина при плохой игре

Вступаю в полемику с майором госбезопасности П. Снопком. Он, «обладающий информацией не только с газетных полос и экранов телевизоров», в упор не хочет видеть того, что происходит на белом свете.

Итак, «кому нужно именно сейчас гнать КПСС?» — спрашивает П. Снопок. И отвечает: «воротилам теневой экономики, новоявленным капиталистам, предпринимателям, лжекооператорам, преступникам и другим категориям лиц, срочно записавшимся в «демократы», «радикалы» и т. д., награбившим миллионы у народа...» Ответ более чем странный. Если бы я, к примеру, был воротилой теневой экономики и под водительством КПСС награбил уже миллионы у народа, то зачем мне ее гнать? Я бы с удовольствием выделил партии пару миллионов, что бы еще более уверенно заниматься своими делами. Постарался бы я и ублажить КГБ и ОБХСС, чтобы и дальше не замечали мои миллионы.

Я думаю, П. Снопок делает хорошую мину при плохой игре, когда «забывает», что гонят КПСС с заводов сами рабочие. Или майор КГБ не знает требований стачкомов? Или, по его мнению, в стачкомах засели «новоявленные капиталисты»? Да, именно рабочим, трудящимся выгодно ограничение компартии. И этого трудящиеся уже добились в Польше, Чехословакии, Венгрии, в бывшей ГДР. И это неизбежно произойдет в СССР, как бы ни сопротивлялись тому КПСС, КГБ, а также Советская Армия. К сожалению, триумвират этого не хочет видеть.

В чем же виновата коммунистическая идеология? Ответ прост. Она не выполнила своих обещаний, хотя ради их выполнения погубила миллионы жизней не только в СССР, но и в Китае, Камбодже, Эфиопии, на Кубе, в Анголе, Никарагуа.

Что же обещали корифеи, создатели и воплотители идей коммунизма? Можно цитировать «Манифест коммунистической партии», написанный в 1848 году, но лучше процитировать работу Ф. Энгельса «Принципы коммунизма» 1893 г. Разница в годах говорит о том, что и к старости взгляды корифеев не изменились. И такими же они были у В. Ленина, И. Сталина. Такими же они остаются и у нынешнего поколения «честных коммунистов», не желающих поступиться принципами.

Так что же корифеи обещали народам? «Кризисы прекратятся. Производство должно будет принять гораздо более широкие размеры. Избыток производства будет обеспечивать удовлетворение потребностей всех членов общества. Земледелие вступит в совершенно новую полосу расцвета. Общество, организованное на коммунистических началах, даст возможность своим членам всесторонне применять свои развитые способности...» И т. д. и т. п. Ну чем не источник для пресловутой хрущевской «Программы построения коммунизма»? Но из коммунизма, из идеи соединения пролетариев вышел большой, кровавый и голодный пшик. Благие намерения завели нас в ад. И это несмотря на то, что КПСС последовательно выполнила те «мероприятия», которые наметили К. Маркс и Ф. Энгельс:

1) ограничение частной собственности;

2) постепенная экспроприация земельных собственников;

3) конфискация имущества всех эмигрантов и бунтовщиков, восставших против большинства народа;

4) одинаковая обязательность труда для всех членов общества до полного уничтожения частной собственности. Образование промышленных армий, в особенности для сельского хозяйства.

И далее — еще дюжина пунктов. Все выполнила КПСС, все воплотила! Но вместо освобождения пролетариата превратила его снова в раба.

Раб — это человек, проданный раз и навсегда, стоящий, по Энгельсу, вне конкуренции. Существование пролетария «зависит от спроса на труд, т. е. от смены хорошего и плохого состояния дел, от колебания ничем не сдерживаемой конкуренции. Следовательно, раб может иметь более сносное существование, чем пролетарий, но пролетарий принадлежит к обществу, стоящему на более высокой ступени развития».

Поэтому мне и выгодно ограничение утопии КПСС: только тогда я смогу превратиться из раба в пролетария и добывать себе средства к жизни путем продажи своего труда.

История, я считаю, поставила крест на идее и практике коммунизма. Но ликвидация КПСС не будет идти большевистским насильственным методом, уничтожать коммунистов никто не станет. При современном уровне производительных сил каждый человек способен, при наличии выгоды, производить значительно больше того, что он потребляет. Если мы восстановим нормальные экономические отношения, то коммунистам будет выгоднее становиться фермерами, предпринимателями, а не держаться за обветшавшие принципы.

Вместо заключения. Моя жена прочитала то, что я написал, и спросила: «За что будут страдать наши дети и я, когда тебя посадят в тюрьму?» Вот где ваша сила, товарищ майор, — в страхе народа. Но я лично в страхе перед КГБ и КПСС жить больше не желаю.

**Олег КОВАЛЕВ,**
**инженер.**

г. Минск.

## Я—за декоммунизацию

Позвольте не согласиться с майором госбезопасности П. Снопком. Я не спешу отрекаться от Маркса и Ленина, но убежден, что необходима деполитизация, т. е. декоммунизация правоохранительных органов...

Компартия привела страну к кризису—это неопровержимо. Почему же ее руководство так упорно цепляется за власть? Потому, что давно уже партия служит во многом личным интересам своего руководства. В 1985 году КПСС имела шанс для обновления, но это угрожало благополучию ее руководства. И началось ополчение против всего нового.

Если т. Соколова Е. Е. более всего возмущало «очернение кадров», то нынешнее руководство призывает очищать партию вовсе не от беспринципных ее членов, а от «деструктивных элементов», т. е. от тех, кто критикует. Причем, если т. Соколов снисходил до демагогических выступлений о возможном сотрудничестве КПБ с «конструктивными силами», предполагая, что эти «конструктивные силы» будут у него на побегушках, то у т. Малофеева на языке то, что у предшественника было на уме: введение чрезвычайного положения.

По-прежнему интересы республики приносятся в жертву корысти и амбициям партийных «кадров». По-прежнему КПБ пристраивает на ответственные должности порой некомпетентных, но «своих» людей. Покончить с этим может только деполитизация.

Что касается мысли П. Снопка, вынесенной в заголовок, — «каким-то влиятельным силам выгодно выбить КГБ из колеи»,—то я все же надеюсь, что КГБ не настолько повязан с КПСС одной веревочкой, чтобы не пережить деполитизации.

**М. КАЖДАН,**
**рабочий Минского инструментального завода.**

## Кто мешает?

Почему такая спешка? Что кроется за ней? Кто за всем этим стоит? На такие мысли наводит заявление майора госбезопасности В. И. Костко о его выходе из КПСС. Националистические силы и все те, кто любыми средствами, часто и от имени народа, рвется к власти, не останавливаются ни перед чем. Впечатление от митингов и демонстраций у меня самое отрицательное. Да, деструктивным силам мешают сегодня МВД, КГБ и армия. Они еще не в их руках. Поэтому главная задача всех стремящихся к свержению существующего строя — разложение, разрушение этих структур.

В образующуюся пустоту хлынут новые, ничего общего с демократией не имеющие силы. Я не за старое, а за новое, но доброе, выверенное, обещающее процветание и мир. Не взвесив, не обсудив с народом вопрос департизации государственных органов, решать его нельзя. А быть или не быть коммунистом или состоять в другой партии — это личное дело каждого.

**Дмитрий ГАЗИН,**
**ветеран войны и труда.**

**г. Витебск.**

### Новости Могилевщины

## Пора расплачиваться

В шоковое состояние пришли руководящие работники Могилевского дорожно-строительного треста № 3, когда узнали, что соподчиненному управлению № 14 предъявлен иск на 170 тысяч рублей. А обвинил их областной комитет по экологии в загрязнении атмосферного воздуха сверх допустимых норм.

Дорожники предпринимают все возможное, чтобы сократить сумму штрафа, но работники комитета по экологии «сражаются» буквально за каждый рубль.

## Полной картины нет

Главный государственный санитарный врач Краснопольского района Л. Липницкий и райпедиатр В. Лысова обнародовали в местной печати итоги работы бригады врачей Института биофизики МЗ СССР и г. Минска по медицинскому осмотру детей весной нынешнего года. Четко проследить какие-либо тенденции в состоянии здоровья ребят ученым не удалось, поскольку большая часть детей из жесткой зоны уже отселена. Вторая причина, не позволившая сделать всесторонние выводы,—отсутствие достоверных статистических данных за доаварийный период.

## Зацветут сады в «Богуславке»...

Помидоры, огурцы, вишни скоро смогут вырастить на собственной земле более 100 рабочих и служащих Бобруйской швейной фабрики имени Дзержинского, принявших решение обзавестись дачными участками. А выделены они исполкомом Бобруйского районного Совета народных депутатов на территории Горбацевичского сельсовета.

Пройдет каких-либо два-три года, и в «Богуславке» — так швейники назвали свой садоводческий кооператив — зацветут сады.

**Николай КОМЛЕВ.**

### Лёсы людскія

# Жыццё, пражытае не марна

Добра ведаюць на Любаншчыне Сцяпана Карнеева. Пражыў ён нялёгкае, але вартае павагі жыццё. На сваім вяку не раз трымаў у руках вінтоўку, праклаў не адну баразну ў полі.

Яшчэ да вайны Карнееў быў абраны старшынёй Загальскага сельсавета. Калі вораг ступіў каваным ботам на родную зямлю, быў адным з першых арганізатараў партызанскага атрада, біў фашыстаў аж да вызвалення Беларусі.

Не адзін дзесятак гадоў працаваў Сцяпан Карнееў на пасадзе старшыні сельсавета і ў пасляваенны час. Больш як паўвека — нязменны вясковы дэпутат.

Апрача гэтага, ён захавальнік партызанскай славы. Менавіта пры яго непасрэдным удзеле адноўлены былы партызанскі лагер на востраве Зыслаў, дзе знаходзіўся штаб Мінскага партызанскага злучэння.

**Алесь СЦЯПАН.**

